PAŠAUKIMAS.

Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# ПОКЛІЧ

Беларуская
грамадзкая
часопісь.

▼▼▼▼

№ 1 (9) Студзень—1927 г. Коўна.

Kaina 1 lt.

F. Sokolovskienės ir G. Lano spaustuvė Kaune, Tel. 793.

# Зьмест.

Цана нумэру 1 літ.

# ПОКЛІЧ

выходзіць два разы ў месяц.

Падпіска: на мес.—1 л. 75 ц. на паўгода—8 л. 50 ц. За кардон—на 50 ц. у месяц даражэй. Цана абветкам з разрахунку 1 страніца 40 літ.; на абкладцы-ў два разы даражэй Падпіс. і абвесткі прымаюцца ў магазыне B-vė „Knyga", Laisvės al., 52.

№ 1 (9). СТУДЗЕНЬ 1927 г. Коўна.

*М. Бяздольны.*

## Наперад!

Наперад, хлопцы, ўсе наперад!
Хто толькі зможа ваяваць...
За свае родныя загоны—
Іх з-пад няволі вызваляць...
Далоў з пад панскае апекі
Імкніcь душою маладой —
Прыгон — няволю, падняволье
Раскінь магутнаю рукой.
Пакуль малоды ты, каханы,
Пакуль б'ець сэрца у грудзі
Аддайся працы бяспадкупна,
Абмыйсь слязою... і ідзі...
Цябе спаткаюць ў падарожжы
Грамады волатаў — братоў.
Ня страшны ім крывавы воблы
Жыцьця зацятых варагоў.
Душы тваёй самотнай, марнай
Сваёй адвагі нададуць
І з песьняй радаснай, магутнай
Да шчасьця людзкага пайдуць.

# Наўкола беларускай справы.

Канец вайны і Рэвалюцыя засталі беларускае адраджэньне ў пачатковай стадыі разьвіцьця. Беларусь, „стаўшая да разрахунку“, не здолела прэд'явіць ні скансалідаванай грамадзкай думкі, ні паважных кадраў нацыянальна сьвядомай інтэлігенцыі, ні яснай (прызнанай другімі) гісторыі Бацькаўшчыны; Беларусь, апынуўшая на раздарожжы паміж захадам і ўсходам, пад уціскам нацыянальных, культурных, рэлігійных і соцыяльна-палітычных фактааў, якія прыносілі з сабою меняючыся па чарзе сваё панаваньне над Беларусью дзьве вышэйпамянёныя стыхіі,—Беларусь нібы страціла свае нацыянальна—бытавое аблічча, сваю істоту. Але гэта толькі здавалася!

Рэальныя дасягненьні ў БССР, кансалідаюцыя беларускай нацыянальна-палітычнай думкі пачыняюць выпраўляць тыя перашкоды, якія Рыская ўмова надала справе беларускага адраджэньня.

Ўваскровшая Польшча, прыняўшы на сябе ролю жандарма Эўропы, паставіўшы стаўку на руйнацыю беларускай справы і прадыктаваўшы Рыскую умову, хутка заўважыла, што яе стаўка біта.

Палякі ў свой час з вялікім самаўпэўненьнем зазначыўшы, што ўсіх сьвядомых беларусоў можна пасадзіць на адной канапцы, зазначаўшыя (вуснамі свайго міністра замельных спраў) што ў працягу 50 гадоў беларусы зьнікнуць з эўрапейскага кругазору, што іх забудуць у Эўропе,—палякі зразумелі сваю абмылку. У сучасны момант уся польская прэса вельмі занепакоена росквітам беларускай справы. Беларусы, здолеўшыя паставіць сваю „канапку“ на шаснаццаць сяброў ў вышэйшых дзяржаўных польскіх установах—у польскім Сойме і Сэнаце, цяпер дамагаюцца зьдзейсьненья свайго істотнага права—быць гаспадарамі ў сябе на Бацькаўшчыне. Мабыць недалкёка той час, калі самім палякам прыдзецца патурбавацца, каб дзе-колечы ў пачэсным мейсцы на абшарах сувэрэннай Зах. Беларусі паставіць сваю „канапку“.

Стыхійны рост беларускай арганізацыі Сялянска-Работніцкай Грамады, распачаўшай загадзя сваю канпанію па падгатоўцы да надыходзячых выбараў у польскі Сойм, перапалохаў палякоў.

Апошнія стаяць перад пагрозай страціць каля 40 мандатаў у Ўсходняй Галічыне і пару лішніх дзесяткаў мандатаў у Зах. Беларусі. Крэсы зрабіліся косткай, засеўшай папярок горла польскаму імпэрыялізму.

Апекуны Польшчы, надаўшы ёй ролю ўсходня-эўрапейскага жандара, пачынаюць пераконвацца, што Польшча, абвярнуўшаяся ў хворага чалавека (прыкладам быўшых Аўстрыяцкай, або Отоманскай імпэрый), стала „гіблым мейсцам“, адкуль можна чакаць уселякіх неспадзеванак; што істнаваньне сучаснай Польшчы супярэчыць агульна эўрапейскаму жаданьню—дабіцца стабілізацыі, і, дзякуючы гэтаму, Польшча павінна: альбо падвергнуцца „хірургічнай аперацыі“ і ўвайсьці ў свае этнаграфічныя межы; альбо павінна быць кінута ў новыя авантуры, ў выніку якіх магла-б стацца як руйнацыя сучаснай польскай дзяржаўнасьці, так разам з гэтым і руйнацыя дабрабыту народаў ўсходняй Эўропы, гаспадарча-эканамічны ўздым якіх і соцыяльны лад жыцьця ў працэсе свайго паступовага замацаваньня становіцца небясьпечным для заходня-эўропейскіх дзяржаў. Такім чынам, ахвяраваць Польшчай і некалькімі сотнямі мільёнаў фунтаў для здабыцьця сабе перадышкі і каб паставіць народы ўсход. Эўропы ў калёніяльнае становішча і залежнасьць ад сябе, зьяўляецца другім магчымым заданьнем сучасных апякуноў Польшчы. Для апраўданьня гэтага самагубнага пляну ў вачах польскіх масаў высоўваецца беспадстаўны лёзунг і праграма: „Скарыстаць украінскія, літоўскія і беларускія сілы на дапамогу польскаму імпэрыялізму“. Не выказваючыся ў гэтай справе за другіх, мы беларусы быць супрацоўнікамі Польшчы не жадаем і ня можам! Справа беларускага адраджэньня мае свае заданьні і свае, выпрацаваныя жыцьцём, шляхі.

Пераходны момант у беларускай справе, калі апошняя з формаў дэкларацыйных, або блізкіх да іх набыла рэалістічныя формы запраўднага існаваньня, зьяўляецца далучэньне да Савецкай Беларусі Магілёўшчыны і Вітэбшчыны,—бо існаваньне Сав. Беларусі з шасьці паветаў у шырокіх масах не рабіла належных пажаданых уплываў—здавалась зьявішчам штучным. Беларуская маса не хацела лічыцца з тым фактам, што ў 20 годзе нацыянальнага і палітычна сьвядомага беларускага актыву ледзьве выстарчала на тое, каб абслужыць сваім персаналам патрэбы жыхарства шасьці паветаў.

Дасягненьні сучаснай Беларусы паказалі, што беларусы зьяўляюцца народам працаздольным, што Рад. Беларусь здольна да жыцьця і можа абслужыць патрэбы жыхарства ня толькі сучасных сваіх абшараў, а і агулам абшараў этнаграфічнай Беларусі, што далучэньне Гомельшчыны, Веліжчыны, Нэвельшчыны, а затым Рослаўшчыны, Клінцаўшчыны, Смаленшчыны і часткова Браншчыны, складаючых адзіны гаспадарчы арганізм, мусіць адбыцца калі ня ў форме Б.С.С.Р., то ў форме Б.С.Ф.С.Р.

Нарыхтаваная Інстытутам Беларускай Культуры Акадэмічная Канферэнцыя, апроч сваіх беспасярэдніх заданьняў, выканала, дасягнула яшчэ адно вельмі важнае для беларускага жыхарства прызнаньне: **Радавая Беларусь зрабіла смотр сваім дасягненьням у эўропейскім маштабе. Пачэсна правела гэты смотр і гэтым увела беларускі народ ў агульна эўрапейскую сям'ю народаў.**—На агульна эўрапейскай мове гэта знача: **этнографічнымі беларускімі абшарамі здолен распараджацца сам беларускі народ, як суверэн гэтых зямель;** ці інакш—факт захопленьня і калёнізацыі этнаграфічна беларускіх абшараў зьяўляецца пагвалчаньнем асноваў міжнароднага права, таго права, ад якога ня можа адмовіцца нават ідыолёгія заходня-эўрапейскіх дзяржаў.

Вось чаму, захапіўшы беларускія абшары, Польшча увесь час імкнулася выяўляць беларусі народ як этнаграфічную масу, не маючую свайго нацыянальнага аблічча і падзеляючуюся по рэлігійнаму адзнаку, вось чаму Польшча была так незапакоена скліканьнем Акадэмічнай Нарады,—вось чаму яна не дазволіла выехаць на гэтую Нараду прэдстаўнікам Зах. Беларусі.

А з другога боку, працэс набываньня ў Радавай Беларусі нацыянальна-культурных асягненьняў і каштоўнасьцяў і разам з гэтым адбудова і ўзмацненьне гаспадарчага стану Беларусі. Гэты працэс, павялічваючы годнасьць беларускага імя і даводзячы апошняе наўзровень агульна эўропейскіх народаў, ня мог не зьвярнуць на сябе ўвагу шырокіх беларускіх масаў, апынуўшыхся па замежамі СССР.

Гэты працэс дае права беларусам, знаходзячымся на становішчы меншасьцяў у дзяржавах суседніх народаў, дабівацца

зьдзейсьненьня нармальных, замацаваных канстытуцыямі гэтых дзяржаў правоў меншасьці.

Беларусы цяпер могуць спадзявацца, што не паўторыцца справацыраваны палякамі і праведзены латвійскімі шавіністамі бяспадстаўны Дзьвінскі беларускі працэс.

Можна спадзявацца, што не паўторацца для беларускай справы 23 і 24 годы ў Літве.

Бо цяпер кожнаму, палітычна развражаючаму грамадзяніну, ясна, што ўселякая (дзе-б то ні было) стаўка на дэнацыяналізацыю беларусоў будзе, ў рэшце рэшт, біта і прывядзе да сораму таго, хто гэткую палітыку будзе імкнуцца праводзіць. — Станецца гэта таму, што цяпер беларусы маюць свой моцны нацыянальна-культурны пьемонт, маюць Родную хату і свой ганаровы штандар Інбелкульту. Ўглядацца на сучасны Менск, карыстацца яго культурнымі здабыткамі ёсьць натуральнае, істотнае, неадбіраемае права беларускай меншасьці тае або іншае дзяржавы. Аб гэтым праве, ў выпадку патрэбы, цяпер будзе гаварыць на падставе ўзаемнасьці сама меншасьць, бо яе нацыянальна-культурны цэнтр—сучасны Менск, даўшы шырокія магчымасьці і даклаўшы высілкаў для задаволеньня нацыянальна-культурных патрэб латвійскай, літоўскай і іншых меншасьцяў у БССР.

Я наўмысне не гаварыў вышэй аб жыхарстве польскім, бо яму Менск даставіў правоў больш, чым на гэтае могуць быць прэтэнзіі запраўднага польскага жыхарства; прыкладам: рэлігійныя патрэбы беларускага каталіцкага жыхарства Менск дазваляе атпраўляць польскім ксендзом, якія наўмысне прадаўжаюць сеяць у галовах (асабліва мала сьвядомых вясковых кабет) шкодную для справы беларускага адраджэньня блутаніну паміж справай нацыянальнай і справай рэлігійнага вызнаньня; як ні дзіўна, але ўсё-ж маюцца даныя, гаворачыя аб тым, што ў БССР праз польскія „кантычкі“ імкнуцца праводзіць ня толькі паланізацыю, а разам з гэтым і некаторыя заданьні як польската шавінізму, так і імпэ-рыялізму.

Абгаварваючы ролю і сучаснае становішча Радавай Беларусі, як асяродка беларускай справы, ня можна абыйсьці моўчкам аднаго моманту, адзначанага ў дакладах дэлегатаў з Літвы, а ўласне: імкненьне ўлады Радавай Беларусі праз шэраг — як партыйных, так і беспартыйных — прафэсыя-

нальных, капэратыўных, мовазнаўчых і розных навуквва-дасьледчых установ прыцягнуць да працы шырокія колы грамадзянства. — На чарадуючыхся адзін з другім зьездах вылушчваюцца элементы, маючыя ініцыятыву, надаючыяся на грамадзкую працу, і прыцягваюцца да адказнага супрацоўніцтва, як выдзвіжэнцы. Дзякуючы ўсяму гэтаму, прэдстаўнікі непартыйнай нацыянальна-сьвядомай беларускай інтэлігенцыі, выказваючы сваю прыхільнасьць да Савецкай улады, зазначалі: „Нацыянальныя здабыткі, якія за 5 гадоў мае беларуская справа, дзякуючы Сав. уладзе, пры іншых варунках ня удалось-б дасягнуць за 50—100 гадоў“ (Лёсік—прамова на Акадэмічнай Канферэнцыі). Бо, паставіўшы чарговай палітычнай мэтай асягненьне актыўнага сялянска-работніцкага супрацоўніцтва, паставіўшы сялян і рабочых у становішча клясы, пануючай у дзяржаве, рэвалюцыйная ўлада павінна была знайсьці формы, забясьпечваючыя зя рабочымі і сялянамі рэальны ўдзел у дзяржаўным будаўніцтве, а культурнае будаўніцтва павясьці адпаведна мейсцовым, бытавым варункам жыцьця новай, падыйшоўшай да ўлады, працоўнай клясы.— Беларусізацыя, праведзеная ў варунках Савецкай улады, дала беларускай справе 20 тысяч агітатараў-партыйцаў, якія выконваюць яе ня толькі як нацыянальнае, але як і палітычнае заданьне.

Нарэшце, беларускае сялянства — адзіна захаваўшае беларускі быт і даўшае, такім чынам, падставу для справы беларускага адраджэньня — гаворыць гэтак: „Наша гаспадарка ўзмацняецца, мы становімся на ногі, вось калі-б толькі не перашкодзіла якая-колечы вайна“... Гэтыя заявы не афіцыяльнай Беларусі гарманіруюць з тым, што чулі нашы дэлегаты ад афіцыяльных прэдстаўнікаў беларускіх савецкіх установ.

Гэтыя заявы зьяўляюцца відавочным сьведчаньнем аднадумнасьці, суцэльнасьці нястрояў Радавай Беларусі, захопленай працай па здавальненьню патрэб мейсцовага жыхарства, па ўзмацненьню яго дабрабыту і вытварчасьці.

Акадэмічная Нарада зьявілася новым сьведчаньнем як лініі палітыкі, так і ўнутранай консалідацыі, спайкі Ураду з жыхарствам Радавай Беларусі.

Захваччыкі беларускіх зямель — палякі першыя адчулі небясьпеку для сваіх хіжацкіх замыслаў ад узросту беларускай сьвядомасьці, ад консалідацыі беларускіх сіл.

Падарож і перагаворы Пілсудзкага ў Вільні, чаму сучасная прэса ўдзеліла столькі ўвагі, зьяўляюцца першым водгукам на Акадэмічную Нараду. Пілсудзкі прыехаў у Вільню, „загаварваць беларусам зубы“. Пілсудзкі нібыта спачувае беларускім вызваленчым імкненьням, ён нібыта жадае дапамагчы беларусам зьбіраць, злучаць белауускія землі. Ізноў пачынаецца сьпекуляцыя прыгожымі словамі „вольныя“, „ровныя“...

А як-жа з Нясьвіжам, пане маршалак?.. Як-жа з слаўным родам Радзівілаў і хэўрай яго „тітулованых гасьцей, з шляхетным родам Пілсудзкіх?..

Многа сьвядомых беларусоў, дбаючых аб вольнасьці сваёй Бацькаўшчыны, туляцца... за кратамі польскіх турам.— Чаму вы ня зьедзіце да іх і ня зволіце на свабоду, ня зьверняце іх да беларускіх дзетак, чакаючых сваёй роднай школы, сваіх беларускіх вучыцялёў?!.

І запраўды, што рэальнага можа даць Польшча для беларускага жыхарства і для беларускай справы?

У вачах Польшчы Беларусь, перш за ўсё, калёнія, гдзе польскія і спольшчаныя магнаты захапілі аграмадныя абшары зямлі, гдзе польская індустрыя, збывае свае тавары, не маючая магчымасьці канкураваць на вольных усесьветных рынках. Беларусь, будучы злучана так або інакш з Польшчай, заўсёды будзе тарэнам польскай эксплёатацыі, ўзмацняючым становішча сучаснай, кіруючай Польшчай, шляхецкай клясы.

Зьвязаная з Польшчай Беларусь, ніколі ня здоляе вырашыць свайго галоўнага—аграрнага пытаньня, без чаго не магчыма узмацніць становішча і палепшыць дабрабыт беларускага сялянства, на чым грунтуецца справа беларускага адраджэньня.

Як Пілсудзкі думае вырашыць гэтую арганічную супярэчнасьць паміж беларускім сялянінам і польскім панам? Пілсудзкі паехаў у Нясьвіж, бо нясьвіжы—польскае панства зьяўляецца галоўным зьвеном, скрэпляючым Беларусь-калёнію з Польшчай-метраполіяй.

У той час, як у Радавай Беларусі дакладаюцца ўсе высілкі для таго, каб павысіць разьвіцьцё прамысловасьці на Беларусі, бо Саюз, як гаспадарчы арганізм, зацікаўлен пазбавіцца патрэбы ў замежных таварах (цяперака ў Радавай Беларусі будуецца цэлы шэраг фабрыкаў і заводаў, прыкладам: у Менску—гарбарня, перавышваючая па сваёй вытворчасьці ўсе заводы быўшыя да вайны на Беларусі; у Віцебску —прадзільная трыкатажная фабрыка, завод сельска-гаспадарчых мяшын, акулярная фабрыка; ў Воршы—электро-механічныя ўстаноўкі на 20 тысяч кіловатчасоў і г. далей),—Польшча, як індрустрыяльная краіна, ня можа дазволіць разьвіцца прамысловасьці на Беларусі, бо зацікаўлена мець для сваёй, ужо істнуючай прамысловасьці, рынак збыту.—Зьвязаная з Польшчай Беларусь ахвярована на далейшы заняпад і ніколі не пазбавіцца свайго жабрацкага становішча.

Такавы аб'ектыўныя варункі справы.—Калі-ж узяць пад увагу, выхоўваемую без належных падставаў стагодзьдзямі польскую мегаламанію, польскую зайздрасьць і лапчывасьць пануючай польскай шляхты, то трагэдыя ад сувязі з Польшчай стане яшчэ больш выразнай, больш яскравай.

Пане Пілсудзкі, мы ведаем, чаго варты вашы прапазыцыі і да чаго скіраваны пасулы дапамагчы справе беларускага адраджэньня, справе зьбіраньня беларускіх зямель. Вы, напяліўшы на сябе шутаўскі кафтан, старэнна падаваемы вам заходня—эўропейскай буржуазеяй, жадаеце, каб беларусы прычапілі бубенчыкі, каб разам за вамі пашлі руйнаваць тое, што дала беларускаму народу Рэвалюцыя. Забаўляйце сабе, пане маршалак, нясьвіжскіх паноў, а нам гэта не да твару.

Сувязь з Польшчай—гэта падгатоўка да новай вайсковай авантуры на ўсходзе Эўропы,—гэта новая руйнацыя дабрабыту беларускага жыхарства, бо беларускія абшары, перш за ўсё, зробяцца тарэнам крывавай схваткі. Польскі імпэрыялізм і яго дзецішча—Рыжскі мір ня толькі пагвалцілі правы ўкраінскага, беларускага і літоўскага народаў, але і, як тая атрута, зьяўлюцца далейшай пагрозай супакою і дабрабыту як суседзяў Польшчы, так і польскіх працоўных масаў. Ўрад маёвага перавароту, прызваны ўрадам „польскай санацыі“, дарэмна носіць гэтую назову, бо ня здолее вылечыць Польш-

чу ад галоўнай, найбольш небясьпечнай хваробы—ад захватніцкіх імкненьняў. Бо галоўны майстра маёвага перавароту Пілсудзкі больш за ўсіх страдае гэтай гістарычнай польскай хваробай і патрабуе прывіўкі ад гэтага шаленства. На захады Пілсудзкага беларускае жыхарства можа даць толькі адзін адказ: беларускі народ, як і ўсе іншыя, маеп равада жыцьця і ня можа быць пазбаўлен аснаўнага права нашае эпохі—права на самаакрэсьляньне. І толькі самакрэсьляньне Зах. Беларусі зьявіцца запраўднай санацыяй Польшчы, толькі самаакрэсьляньне народаў, штучна перароблены у польскія крэсы, зьявяцца запраўднай падставай усім патрэбнага і пажаданага міру на ўсходзе Эўропы.

10—XII—26 г. *Пуцята.*

# Да літоўскіх нацыяналістаў.

Падзеі апошніх дзён, прывеўшыя да ўлады партыю нацыяналістаў, і самая чыннасьць гэтай улады прымушае беларускіх нацыянальных працаўнікаў уважліва прыглядацца да напрамку працы і вынікаў чыннасьці ўлады. Можна спадзявацца, што прыйшоўшая да ўлады нацыянальная партыя, маючая і ўвабраўшая ў свае шэрагі выдатных, актыўных, імпульсіўных, нацыянальна-дзяржаўных дзеячоў ня пройдзе міма найбольш трудных—істотных проблем дзяржаўнага будаўніцтва Літвы. Найгалоўнейшаю з іх трэба лічыць проблему Віленшчыны, бо не вырашэньне яе становіць адчыненым дзяржаўнае афармленьне Літвы, тармозіць дзяржаўна-гаспадарчае яе развіцьцё і што, горш за ўсё, неразвязаньне пытаньня дзяржаўнай прыналежнасьці Вільні робіць нетрывалай палітычную сітуацыю наўкола Літвы і надае апошняй няпэўнае, небясьпечнае становішча.

Пытаньне Вільні вымагае як ад беларусоў, так і ад літоўцаў шукаць стычнасьці, шукаць мэтадаў і варункаў супрацоўніцтва.

Не кажучы ўжо аб рамантызме ў справе літоўска-беларускіх узаемаадносін, навеянным супольным дзяржаўным будаўніцтвам у мінуўшчыне, беларусы зацікаўлены ў разьвязаньні Віленскай проблемы таму, што, па-перш, яны склада-

юць вельмі значны працэнт тамашняга мяйсцовага жыхарства і, па-другі—развязаньне справы Вільні мусіць стацца прэцэдэнтам для адначасовага развязаньня справы ўсяе Зах. Беларусі. Апроч таго, практыка жыцьця паказала, што на беларусох сучаснай Літвы вельмі адбіваецца як тая або іншая ўлада Літва ставіцца да разьвязаньня Віленскай справы; што зьяўляецца зусім зразумелым, бо побыт, адносіны да беларусоў у сучаснай Літве павінны даць беларускаму жыхарству Віленшчыны перспэктывы таго, на што яно можа спадзявацца ў выпадку далучэньня Віленшчыны да сучаснай Літвы.

У зьвязку з тым, што сучасныя кіруючыя палітычныя літоўскія колы маюць у стасунку да Віленскай справы сваю акрэсьляную праграму, замоўчваць справу літоўска-беларускіх адносін лічым не магчымым і шкодным.

Паставіць на абгавор справу Вільні, высьвятліць тыя сілы, якія спрыяюць развязаньню гэтай справы, акрэсліць мэтады і граніцы супрацоўніцтва і, ў першую чаргу, супрацоўніцтва літоўска-беларускага зьяўляецца патрэбаю чарговага палітычнага дню.

Падыход да справы павінен быць просты і ясны,— якая - колечы недагаворанасьць можа толькі пашкодзіць справе. Беларускае актыўнае, нацыянальна і палітычна сьвядомае грамадзянства мае ў гэтай справе сваю скансалідаваную думку і чыннасьць. У папярэдніх №№ „Покліча" гэтая справа высьвятлялася. У кароткіх рысах яна зводзіцца к ніжэй пададзеным тэзісам:

1. Беларусы, як нацыянальны элемент, складаюцца з сялянскіх гушчаў і невялікіх колаў рабочых і працоўнай інтэлігэнцыі.

2. Справы беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня можа лічыцца забясьпечанай толькі тагды, калі маюцца ў наліччы варункі для гаспадарчага і праўнага ўзмацненьня гэтых галоўных беларускіх нацыянальных колаў.

3. Галоўнай перашкодай для справы беларускага адраджэньня, для палепшаньня дабрабыту беларускага жыхарства зьяўляюцца польскія абшарнікі, высілкамі якіх трымаецца калёніяльнага характару залежнасьць — акупацыя Зах. Беларусі Польшчай.

4. Этнаграфічная Беларусь на працягу стагодзьдзяў зьяўляецца тарэнам, гдзе адбываюцца: барацьба заходняй і ўсходняй культур, барацьба рэлігій, барацьба народаў, барацьба сацыяльна-палітычных ідэй... Кожнае з гэтых зьявішч пакінула свае нашчаткі, свае ўплывы на Беларусь, і таму нармальнае, спакойнае разьвіцьцё беларускага дзяржаўна-гаспадарчага будаўніцтва магчыма толькі ў варунках дыктатуры, скіраванай на ўзмацненьне дабрабыту гэтых нацыянальных беларускіх клясаў (сялянства, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі); прычым прэдстаўнікі гэтых клясаў павінны браць удзел у самым правядзеньні дыктатуры.

5. Сталы мір і нармальнае развіцьцё дабрабыту беларускага жыхарства немагчымы без развязаньня справы Зах. Беларусі.—Сваімі, нададзенымі жыцьцём, супрацоўнікамі ў гэтай справе беларусы ў першую чаргу спадзяюцца бачыць літоўцаў і ўкраінцаў.

6. Захопленыя Польшчай насільствам украінскія, літоўскія і беларускія землі відавочна вымагаюць сілы для ліквідацыі гэтага насільства. Але, будучы сьвядомы ў гэтым, беларусы ня маюць жаданьня даводзіць справу да вайны, бо яна, перш за ўсё, павінна была-б адбывацца на беларускіх абшарах. Шукаючы іншых умоў для развязаньня справы, беларусы імкнуцца стварыць для Польшчы такую сітуацыю, каб яна не была-б здольна трымацца адным насільствам на „крэсах“, а мабыць не была-б здольна ўжыць аружжа для іх далейшага ўтрыманьня. Беларусы жадаюць дабіцца рэальных магчымасьцей для акупаванага Польшчай жыхарства зьдзейсьніць, **скарыстаць свае суверэнныя правы.**

7. Беларусы не лічаць магчымым займацца ашуканствам саміх сябе і спадзявацца, што ў разьвязаньні пытаньня „крэсаў“ праявіць ініцыятыву—дапаможа Ліга Нацый; бо, па-перш, Польшча зьяўляецца выканаўцам заданьняў дзяржаваў, дыктуючых ня толькі Польшчы, а і самай Лізе Нацый; у разрахунак гэтых дзяржаваў уваходзіць падтрымліваць і надалей няпэўнае, нявыразнае становішча на ўсходзе Эўропы, каб гэтым, як мага, надалей затрымліваць эканамічнае развіцьцё ўсходне-эўропейскіх краін, павінных (па разрахунку на доўгую шкалю імпэрыялістаў з Лігі Нацый) у працягу часу, зьявіцца для іх тлустай, ласай стравай; па-другі, гэтыя дзяр-

жавы, будучы арганічна зацікаўлены ў сваіх сучасных калёніях, без чужастароньняга прымусу ніколі не згодзяцца зрабіць прэцэдэнт для сваіх калёній—узьняць пытаньне аб праве на самаакрэсляньне жыхарства захопленых Польшчай зямель.

На гэтых тэзісах беларускія нацыянальныя працаўнікі грунтуюць сваю палітыку. Для ўсталеньня літоўска-беларускага супрацаўніцтва павінна быць высьвятлена—наскольки гэтыя тэзісы адпаведаюць думкам і плянам сучасных чыннікаў літоўскай палітыкі і да якога стопня можна разлічваць на паралелізм літоўска- беларускіх мэтаў і тактыкі.

Было-б пажадана з аналёгічнай прастатой і яснасьцю, з якімі высьветляліся тутака падставы беларускай нацыянальнай палітыкі, разгледзяць і адзначыць—на чым грунтуецца літоўская нацыянальная палітыка, і (ў звязку з тым, што цяпер яна будзе праводзіцца новымі чыннікамі) якія яна ставяць сабе чарговыя нацыянальныя заданьні; бо толькі беспасрэдні, акрэсьляны падыход да справы дасьць магчымасьць знайсьці супольную мову, зразумець і, ў выпадку жаданьня і патрэбы, распрацававь адпаведную мэтам, часу і прынятым на сабе абавязкам тактыку чарговай супольнай чыннасьці.

Актывізаваная нацыянальнай думкай літоўская воля дасягнула новых варункаў дзяржаўнага будаўніцтва. Прыйшоўшыя да ўлады літоўскія нацыяналістычныя элементы знайшлі патрэбным свой учынак растлумачыць, як выпад супроць актыўнасьці нібы-то імкнуўшыхся да дзяржаўнага перавароту да путчу, інакш—соцыяльна і палітычна мысьлячых колаў грамадзянства.

Ня будзем затрымлівацца на разглядзе гэтага моманту, гэта па істоце і не так важна, бо, звычайна, відавочна патрэбнае для дасягненьня агульна нацыянальных мэтаў не дамагаецца, не патрабуе апраўданьня. Налічча гэткага апраўданьня дае падставу для разважаньня аб тым, наскольки моцнае маецца пераконаньне ў патрэбе стаўшагася ўчынку, і як гэты новы нацыянальны актыў мысліць свае заданьні ў справе дзяржаўнага будаўніцтва.

Яскравым фактам, выяўляючым тактыку падыйшох да ўлады новых нацыяналістычных чыннікаў літоўскай палітыкі зьяўляецца трагічная падзея, стаўшаяся ў раніцу 27 сьнежня.

Гэтая сумная падзея прымушае лічыць, што ў шэрагах літоўскага нацыяналізму, праводзячага сваё афармленьне і шукаючага сваё мейсца ў сыстэме сіл, уплываючых на ўсесьветную палітыку, маюцца уплывовыя на агульную тактыку партыі колы, разглядаючыя сябе, як антытэзу рэвалюцыі.

Гэты момант справы, маючы на даволі даўгі тэрмін акрэсьліць, увязаць літоўскую нацыянальную палітыку больш за ўсё патрабуе свайго высьвятленьня.

Выходзячы з тае аснаўное прэдпасылкі, што партыя літоўскіх нацыяналістаў ня мела да апошняга часу выразнага клясавага твару, што галоўная маса сяброў партыі ставіць на першы плян заданьні агульна нацыянальныя, — лічым магчымым і патрэбным некалькі затрымацца на разглядзе нацыяналізму па істоце, а разам з гэтым разгледзяць, што выяўляе з сябе галоўная (адыгрываючая важнейшую ў нацыянальнай справе ролю) літоўская маса і якія проблемы і заданьні маюцца на яе шляху.

Кожны нацыяналізм (не зважаючы на тое—„дзяржаўную ці „недзяржаўную“ нацыю ён абслугоўвае) ў сваёй засадзе мае здаровае, хоць і эгаістычнае, імкненьне дасягнуць найлепшых варункаў жыцьця, як мага, павялічыць дабрабыт, перш за ўсё, сваёй нацыі.

Дзякуючы маючымся ў кожным нацыяналізме памянёным эгоістычным тэндэнцыям, кожны нацыяналізм мае, ў больш або меньш, вострай форме выяўленыя супярэчнасьці з нацыяналізмам сумежных народаў, або дзяржаваў.

Практыка папярэдняга жыцьця паказала, што кожны нацыяналізм (шукаючы павялічыць свае агульна нацыянальныя здабыткі) карыстаецца заняпадам якога-колечы, падаючагася „абработцы“, народу і стараецца ці ў форме палітычнай, ці ў форме гандлёва-гаспадарчай (індустрыяльнай) паставіць другія нацыі ў тую або іншую залежнасьць ад сябе.

Для апраўданьня сваёй тактыкі гэткія імпэрыялістычныя дзяржавы распаўсюджваюць тэорыю аб „дзяржаўных“ і „недзяржаўных“ нацыях.

Нацыі „дзяржаўныя“—пануючыя, імпэрыялістычныя сваю будучыну грунтуюць на калёніях і уласнай індустрыі. Выканаўцамі нацыянальных заданьняў у гэткіх дзяржавах звы-

чайна бываюць капіталісты, прамысловцы і абшарнікі; сродкамі зьдзейсьненьня іх нацыянальных заданьняў зьяўляюцца аружжа, капітал і машыны.

Нацыі „недзяржаўныя“—падлеглыя, паднаволеныя маюць іншыя заданьні, іншых выконвацялёў нацыянальнай справы, іншыя сродкі для зьдзейсьненьня іх. Іх мэта—самаабарона ад панаваньня чужынцзў, усталеньне свайго сувэрэнітэту, узмацненьне і, па магчымасьці, незалежнасьць гаспадаркі. Выканаўцам нацыянальных заданьняў у гэтым выпадку зьяўляецца ўся паняволеная, падпарадкаваная маса. Іх звычайным аружжам зьяўляецца нацыянальна-культурнае і соцыяльна-палітычнае ўсьвядамленьне жыхарства, грунтуючыся на пачуцьцю свайго права, прапаганда і арганізацыя мас.

Аб'яднаньне, консалідацыю першых нацый робіць капіталізм.

Консалідацыю другіх—рэвалюцыя.

Думаецца, што навет некалькі папярэдніх радкоў выстарчае, каб было відавочна ясна, што нацыяналізм нацыяналізму—рожніца, што **нацыяналізм імпэрыялістаў ёсьць антытэза нацыяналізму вызваленцаў.**

Два сусьветнага маштабу фактары ў апошнім моманце будуць акрэсьліваць палітыку заўтрашняга дню—капіталізм і рэвалюцыя.

Трэба мець на ўвазе, што ні першае, ні другое яшчэ не сказалі свайго апошняга слова.

Мы жывом ў эпоху афармленьня гэтых агульна ўсесьветных сіл, што робіць нашу эпоху вельмі адказнай за будучыну чалавецтва. Апошняя вайна, вайна за прыорытэт, за ўсесьветнае кіраўніцтва гаспадарчым ладам жыцьця не дала рашучай перамогі якой-колечы старане і не здолела ўтварыць гегемонію для прэдстаўляючага яе якога-колечы нацыянальнага капіталізму; апошняя вайна парадзіла і антытэзу капіталізма —рэвалюцыю.

Цяпер капіталізм, адчуўшы небяспеку і шкоднасьць міждзержаўнай канкурэнцыі, робіць перастрахоўку сваіх пазіцый—імкнецца да ўсесьветнага аб'еднаньня. У выпадку зьдзейсьненьня ім сваёй праграмы, чалавецтва ўвойдзе ў эпоху замацаваньня (пад даглядам упаўнаважаных ад аб'еднанага капі-

талізму) краін (з пачатку іх гаспадарчых рэсурсаў, а потым і сувэрэнітэту) за сэкцыямі капіталу, чэлавецтва ўвойдзе ў эпоху аналёгічную абшарніцкаму феадалізму,—ў эпоху, імя якой будзе індустрыяльны феадалізм.

Літоўскія нацыяналісты, як і нацыяналісты кожнай краіны, павінны мець ясную справаздачу, павінны падрыхтавацца —высьветліць сабе надыходзячую сітуацыю, павінны ведаць што іх чакае і выбраць сваё запраўднае мейсца.

Каб адказаць на апошняе пытаньне, трэба прыглядзецца, па-перш, да сваіх нацыянальных рэсурсаў, а, па-другі, паставіць акрэсьляныя мэты і прааналізаваць канкрэтныя шляхі іх асягненьня.

Літоўскі нацыянальны актыў складаецца з сялянскіх масаў, рабочых (асабліва калі ўзяць пад увагу амэрыканскую эміграцыю) і працоўнай інтэлігенцыі; літоўскія капіталісты і абшарнікі ў сучасны момант занадта слабы, каб можна было спадзявацца, што яны здолеюць выконваць якія-колечы паважныя нацыянальныя заданьні.

Літоўскія нацыяналісты павінны памятаць, пры якіх варунках літоўскі народ зьвярнуў сабе свае суверэнныя правы: пры варунках, калі масы жыхарства былі пазбаўлены апекі бюракратыі—буржуазна-абшарніцкай клясы, на чым грунтавалася і трымалася ўлада царызму.

Рэвалюцыя, прымусіўшая спыніць вайну і перагледзяць падставу міжнарадовага сужыцьця, стварыла, пажаданую для справы літоўскага адраджэньня палітычную сітуацыю. — Літоўскі народ, прэдастаўлены сам сабе, стаў гаспадаром сваіх суверэнных правоў. Яго актыў, высунутый на паверх шырокімі коламі грамадзянства, пачаў выяўляць гэты суверэнітэт.

Кім цяперака парушаны суверэнныя правы літоўскага народу?—„Жандарам капіталістычных дзержаваў“—Польшчай.

Справа захопленай насільствам Вільні не з сягодняшняга дню вымагае літоўскай акцыі ў абарону сваіх суверэнных правоў. Справа Вільні гэта прэцэдэнт паказаўшы, што можна не лічыцца з правам усходне-эўропэйскіх народаў на самаакрэсьляньне. Невырашаная справа Вільні—гэта далейшая небясьпека літоўскаму суверэнітэту і дзяржаўнасьці.

Якія рэальныя магчымасьці мае Літва для памыснага для сябе развязаньня справы?

Чаго ў гэтай справе можа дачакацца Літва ад аб'еднанага капіталізму?

Абецаньні зьвярнуць Вільню Літве, калі яна стане пад даводства маршала Пілсудзкага на змаганьне з Саветамі.

Вайна на ўсходзе Эўропы павядзе да новай перакройкі дзяржаўна-географічных мапаў. Якія гарантыі можа мець Літва, што папярэднія ўмовы, зробленыя з ею на выпадак памыснага для аб'еднанага капіталізму завяршэньня справы, будуць выкананы; што ня знойдзецца новы Жэлігоўскі, які зробіць з умовы кавалачак паперы, належачы для здачы ў музэй.

Літоўскі народ ня будзе мець нацыянальных элементаў, якія здолелі-б стаць у суплаш з кіраўнікамі жыцьця, маючай у такім выпадку ўсталіцца новай эпопеі індустрыяльнага фэадалізму. Ў літоўскага народу ня будзе абаронцаў, якія здолелі-б пры новай сітуацыі абслугоўваць яго патрэбы і правы. Аб'ектыўныя варункі такавы, што літоўскі народ спаткала-б тая самая доля, якую імкнуцца накінуць рэшце народаў усходняй Эўропы—быць васалымі капіталізму.

**Адзіна рэальны магчымы шлях для развязаньня ў памысным для Літвы кірунку Віленскай праблемы зьяуляецца стычнасьць літоўскай палітыкі з нацыянальна рэвалюцыйнымі элементамі, працуючымі супроць польскага імпэрыялізму.** Здабыткі іх палепшаць дабрабыт і варункі жыцьця літоўскага жыхарства Віленшчыны—варункі тых слаёў жыхарства, на ўзмацненьні якіх груntуецца і літоўскі суверэнітэт і яго рэальная абарона.

А калі гэта так, то імкненьні самаакрэсьліць літоўскі нацыяналізм, як антытэзу рэвалюцыі, немагчыма прызнаць правідловым.

Калі на літоўскія рэвалюцыйныя элементы выпадае абавязак прыняць удзел у вырашэньні агульца нацыянальных заданьнаў, то літоўскі нацыяналізм павінен ставіцца да іх, як да агульна нацыянальнага актыву,—павінен знайсьці modus vivendi, павінен знайсьці мейсца і сферу іх дзеяльнасьці, павінен знайсьці шляхі для іх выкарыстаньня.

Сучасны момант у жыцьці незалежнай Літвы трэба прызнаць найбольш адказным. Падыйшоўшыя да ўлады актыўныя элементы краіны стаяць перад найгалоўнейшай

праблемай літоўскага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Шэраг як унутраных, так і міжнарадовых абставін вымагаюць ад Літвы акрэсьлянай чыннасьці. Выбраць правідловы шлях для вырашэньня гэтых праблем, а разам з тым і канчаткова аформіць адпаведна нацыянальна-дзяржаўным мэтам лінію літоўскай палітыкі.

Яе выкананьне павінна грунтавацца на прагнозе і ацэнцы тых магчымасьцей і сіл, на што здолен галоўны чыннік справы літоўскага адраджэньня—літоўскі народ (літоўскае сялянства, рабочыя і інтэлігенцыя). Сягоньня за арбіту магчымасьцей і інтарэсаў гэтых аснаўных элементаў нацыі паставіць справу літоўскага адраджэньня ў цяжкае становішча.

Патрэбнасьць для сучаснага ўраду Літвы афармленьня вымагаецца яшчэ тым, што ў стварэньні магчымасьцей для атрыманьня ўлады сучаснымі яе чыннікамі бралі ўдзел вельмі рознакаліберныя (па сваім імкненьням і поглядам) колы грамадзянства, прыкладам, гуртуючыяся наўкола часопісі „Tautos Valia“ гэтак уляўляюць сабе чарговую палітыку Літвы: трэба прыняць курс і прыслухоўвацца да ангельскай палітыкі, скіраванай на тое, каб памірыць немцаў з французамі і палякамі; трэба пад кіраўніцтвам Англіі Літве разам з Эстоніяй, Латвіяй і Польшчай стварыць авангард і рушыцца супольнымі сіламі на Саветы.*)

Дазвольце запытацца: пры якіх варунках можа стацца замірэньне і каардынацыя палітыкі Нямеччыны з Францыяй і Польшчай? Пры звароце немцам Рурскай і Сарскай абласьцей, пры зьняцьці з немцаў, або перакладцы на чужыя плечы рэпарацыйных плацяжэй і, галоўнае—пры **ліквідацыі Данцыгскага карыдору.**

Хто-ж павінен даць кампэнсацыю Францыі і Польшчы за памянёныя ўступкі Нямеччыне? Усходне-эўропейскія народы і ў, першую чаргу, Беларусь і Літва.—**Замест „Данцыгскага карыдору“ палякі патрабуюць „карыдор“ да Клайпеды і Лібавы.**

Такая палітыка можа быць прадыктавана кім і чым заўгодна, толькі не інтарэсамі літоўскага і беларускага народаў.

Небясьпечнасьць гэткай палітыкі як для літоўскай, так і для беларускай нацыянальнай справы павялічваецца яшчэ

*) Часопісі „Rytas“, „Darbininkas“, а навет ў адным № „Lietuva“ таксама, хоць і не нагэтулькі выразных тонах, прапанавалі арыянтацыя на Англію.

тым, што яна вядзе да ўзмацненьня як у гаспадарчым, так дзяржаўна-грамадзкім жыцьцю (а значыць і ў справе сувэрэнітэту краіны) ролі абшарніцкіх шляхецкіх элементаў.

Каб даць канкрэтнае прэдстаўленьне, што гэта значыць, разгледзім прыклад з мінуўшчыны: Чым тлумачыцца, што ў часы царызму (Александр I), ў сэрдцы старой Літоўска-Беларускай дзяржаўнасьці быў закладзен польскі ўнівэрсытэт? А тым, што дваранства—абшарнікі складалі пры царызме пануючую клясу і што яны, такім чынам, карысталіся правам прэдстаўляць краіну—выяўляць яе сувэрэнітэт. Шляхта-абшарнікі лічылі сябе палякамі, а, значыць, край польскі і ўнівэрсытэт трэба закладаць на польскай мове; у касьцёлах трэба гаварыць казаньні па-польскі... **Чаго ня здолелі зрабіць Люблінская і іншыя ўніі—зрабіў у варунках царызму польскі абшарнік—пан.**—Вось на чым грунтуецца паланізацыя нашых краін. Дазвольце толькі абшарнікам запраўляць нашымі краінамі і ўбачыце, як апошнія хутка пачнуць траціць свае запраўднае нацыянальнае аблічча — зробяцца „крэсамі“.

Няменьш марныя перспэктывы гэткай арыентацыі (ў выпадку сувязі-супрацоўніцтва з Англіяй і Польшчай) чакаюць нашы народы і ў гаспадарчым жыцьцю.—Прышлося-б, ў рэшце-рэшт, сплачваць рожныя, ў тым ліку і дутыя, кампэнсацыі абшарнікам за страты.

Над развіцьцём сваёй прмаысловасьці таксама прышлося-б паставіць крыж. — Наша краіна стала-б рынкам збыту гатунковых вырабаў; трапіла-б у васальную залежнасьць ад чузаземнага капіталу—зрабілася-б калёніяй.

Учаляцца супрацоўнічаць для уцелаішчэньня зацеваемых рожнымі імпэрыялістамі, вайсковых авантур—гэта значыць распачынаць вельмі небясьпечную для адраджаючыхся народаў гульню—**даваць рэванш саратнікам сваіх учарашніх гнабіцеляў.**

Капіталізм, у змаганьні за свае ўсесьветнае панаваньне, звычайна афяруе не кроў сваіх адэптаў, а грошы. Апошняя прыманка, скарыстаная, пральсціўшыміся на яе, для вайсковых мэтаў, становіцца пятлёй, якою капіталізм душыць свайго, выканаўшага заданьне капіталіста, ўчарашняга „Маўра“. Такім „Маўрам“ капіталізму ў час усесьветнай вайны была

Расея, а цяпер зьяўляецца Польшча. Існі яе шляхам—**імкнуцца да ўзмацненьня становішча буржуазна-абшарніцкіх чыньнікаў усесьветнай палітыкі; дамагацца апанаваньня іх палітычных тэндэнцый на Літве, або Беларусі,—гэта значыць не спачуваць або не разумець працэссу нацыянальна-дзержаўнага адраджэньня нашых народаў.**

Трэба адзначыць акрэсьляна, што гэткі шлях вядзе да затрыманьня поступу, да здачы ў анабіоз справы адраджэньня нашых народаў.—Шкоднасьць і супярэчнасьць яго істоце і патрэбам нашага адраджэньня беларусы разумеюць і па такому шляху не пойдуць.

Беларусы з вялікай уважлівасьцю углядаюцца ў сучаснае афармленьне і канструкцыю новых форм літоўскай дзяржаўнасьці. Мы чакаем крысталізацыі і ўзмацненьня літоўскіх нацыянальных элементаў. Іх чыннасьць, скіраваная на дасягненьне літоўскіх нацыянальна-дзяржаўных мэтаў, а разам з тым і на паляпшэньне дабрабыту і праўнага становішча працоўных элементаў (на чым запраўды грунтуецца справа літоўскага адраджэньня) заўседы знойдзе сярод беларусоў спачуцьцё і падтрыманьне.

Справа як літоўскага, так і беларускага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва затрымалася ў працэссе завяршэньня.

Беларускае жыхарства і яго сьвядомы нацыянальна-палітычны актыў вядзе рашучае змаганьне з польскай уладай за права на самаакрэсьляньне народаў на акупаваных Польшчай абшарах.

Мы спадзяёмся, што палітыка новага Літоўскага Ўраду прыме кірунак і праявіць належную актыўнасьць для згуртаваньня і павялічэньня чыннасьці адпаведных колаў літоўскага грамадзянства. Шляхам арганізацыі і узмацненьня літоўскіх працўоных элементаў створацца належныя перспэктывы для жыхарства Віленшчыны і выкуецца, ўзмацуецца яго воля да змаганьня за свае, пагвалчаныя акупантамі, правы.

На гэтым шлягу беларускае грамадзянства рада будзе прывітаць нацыянальныя літоўскія кіруючыя колы і пастараецца супольнымі высілкамі, для агульнай карысьці, прыблізіць момант дасягненьня нацыянальных мэтаў абодвых народаў.

*А. Лазіна.*

# Далучэньне Гомельшчыны да Рад. Беларусі

У палове сьнежня мінулага году сталася новае ўкрупненьне Рад. Беларусі.

Пачаўшаяся ў канцы 1920 г. з 6 паветаў Менскай губэрніі Рад. Беларусь, узгадаваўшы на гэтым невялікім абшары свой нацыянальны актыў, праз тры годы здолела ўжо абслужыць 22 паветы (з. Вітэбскай і Магілеўскай губ. уключна).

Цяпер улада Менску агарнула Гомельшчыну з 700,000 бел. жыхарства.

Такім чынам, цяпер у Рад. Беларусі налічваецца 5,200,000 жыхароў.

Факт далучэньня Гомельшчыны вельмі радуе кожнага беларуса,—радуе ня толькі таму, што да Менску далучан вельмі важны гаспадарча-эканамічны цэнтр,—радуе і таму, што самы факт далучэньня сьведчыць аб узмацненьні беларускай справы,—сьведчыць аб тым, што з усходу працэс уцелаішчаньня справы беларускага адраджэньня пройдзе бяз калізій. Раз Улада паставіла сваёй мэтай грунтавацца на рабочым і сяляніне, раз гэтыя колы мусяць выяўляць сувэрэнітэт краіны,—то ясна, што гісторыя, быт і патрэбы жыцьця гэтых колаў у першую чаргу павінны быць улагоджаны і ўшанаваны; ясна, што форма выяўленьня гэтага сувэрэнітэту павінна праходзіць у мове сувэрэна краіны—ў мове беларускай. Агулам кажучы, беларускай справе вельмі не шанцавала, не патраплялася ўзыйсьці на ўзровень агульна-палітычнага жыцьця. Калі сувэрэнітэт краіны выяўлялі абшарнікі, буржуазея і бюракратыя, то справа беларуская была на задворках, бо ў гэтых колах беларус ня меў сваіх Прэдстаўнікоў.

Справу беларускую зрабіла жыцьцёвай Рэвалюцыя, паставіўшая дзяржаўнай кіруючай клясай рабочых і сялянства.

Нарэшце дачакаўся беларус, што „заглянула сонца і ў яго ваконца“.

Спадзяёмся, што ў незабаве Гомельшчына, стаўшы актыўным чыннікам у беларускай справе, патрапіць надаць свае высілкі для ўзмацненьня культурнага скарбу беларусоў.

# Літва.

## Палитычны пераварот. Новая улада.

У ноч з 16-га на 17-ае сьнежня мінулага году адбыўся палітычны пераварот у Літве.

Прыняўшая дачыненьне ў пераароце вайсковая ўлада правяла яго плянова і вельмі хутка.

Міністры былога ўраду, затрыманыя ў ноч перавароту, праз некалькі дзён былі звольнены з-пад арышту.

Замест адрокшагася Прэзыдэнта д-ра *Грініуса* быў выбран Прэзыдэнтам гр. *Сметона*.

Склад новага Кабінэту Міністраў ніжэйпаданы:

Старшыня і Міністр Замежных Спраў—праф. *Вольдэмарас* (taut.)
Міністр. Унутр. Спраў — *Мустэйкіс* (спач. tautin.)
Міністр Вайсковых Спраў — *Меркіс* (tautin.)
Міністр Грашовых Спраў — д-р *Карвяліс* (хр. д.),
Міністр Справедлівасьці — *Шылінгас* (ūk. sąjung.),
Міністр Асьветы — д-р *Бістрас* (хр. д.),
Міністр Зямляробства — *Алекса* (ūkio part.),
Міністр Шляхоў — *Янкевічіус* (ūkio part.).
Дзяржаўны Кантроль — *Мільчус* (darbo feder.).

У ноч перавароту быў заарыштаваны значны лік камуністаў.

Адбыўшыйся 24—XII—26 г. вайсковы суд 2-га пеш. палку прыгаварыў да кары сьмерці чатырох камуністаў — Паула Пожэло, Рафаіла Чорнага, Язэпа Грэйфенбергерыса і Гедрыса, якія 27—XII—26 г. раніцаю былі расстрэляны.

Як павядамляюць часопісі, новы Ўрад распрацоўвае зьмену некаторых пунктаў Канстытуцыі, датычучыхся выбараў Прэзыдэнта, ўзросту выбаршчыкаў, тэрміну паўнамоцтваў Сойму, парадку аплаты дэпутатаў і інш.

Ў інтэрв'ю Міністр. Зам. Спраў праф, Вольдэмарас з прэдстаўнікамі прэсы зазначыў, што замежная палітыка Ўраду ня будзе зьменена і што з Польшчай немагчымы ніякія стасункі да таго часу, покуль Вільня будзе заставацца ў руках Польшчы.

# Беларускае жыцьцё ў Літве.

## Беларуская пачатк. школа.

У сьнежні месяцы мінулага году адчынена і прынята на ўтрыманьне дзяржаўнага скарбу адна беларуская школа ў м. Еўї. Вучыцелям назначан гр. Маркел—вопытны пэдагог. Школа абсталёўваецца. Заняткі распачаліся. Ад вучняў няма адбою. Лёгка можна было-б набраць два і навет тры камплекты дзяцей школьнага ўзросту, але малое школьнае памешканьне дазволіла прыняць покуль што толькі 50 вучняў.

Вучыцель жаліўся, што ня хапае школьных беларускіх падручнікаў. Мы парадзілі вучыцелю наладзіць больш шчыльную сувязь з беларускімі арганізацыямі, якія, будучы зацікаўлены ў ітснаваньні беларузкіх школ у Літве, здолеюць і з вялікай прыемнасьцю пасобяць раздабыць патрэбныя беларускія падручнікі.

Нам здаецца, што пара зараз-жа і прэдстаўнікам беларускіх арганізацый і прэдстаўнікам Міністэрства Асьветы паклапаціцца і падрыхтавацца да адчыненьня беларускіх школ у чарговым навучальным годзе.

Беларускім арганізацыям трэба загадзя сабраць прыгавары аб адчыненьні беларускіх школ. Давясьці да ведама Міністэрства Асьветы аб ліку і мейсцы патрэбных школ. Адначасна дабівацца, каб Міністэрства Асьветы адчыніла тэрміновыя курсы па падрыхтоўцы беларускіх вучыцялёў і зацьвердзіла альбо падрукавала патрэбныя беларускія падручнікі.

**Справа Пашырвінтаў і Нарвідаў** (Ваўкавыскага пав.) пакуль што вісіць у паветры. Адбыўшыйся 13—XII—26 г. суд пастанавіў, каб яны да 23 красавіка 1927 г. пакінулі свае хаты. Сяляне спадзяюцца, што новы Літ. Урад, маючы на мэце пераглядзяць закон аб зямельнай рэформе, не забудзе пакрыўджаных гэтым законам сялян, якіх невялікія кавалкі, зямлі набытыя пры дапамозе Сялянскага Банку, зямельны закон аддае пад канфіскацыю.

Такая самая справа набліжаецца ў сялян як расейскай, так і беларускай нацыянальнасьці **і ў Панявежскім павеце,** адкуль у палове сьнежня мінулага году прыежджала дэле-

гацыя. Яна рабіла захады ў прэдстаўнікоў Сойму, каб зрабілі запрос ў іх справе У зьвязку з палітычным пераваротам 17 сьнежня м. г. дэлегацыя не давела сваю справу да канца. Панявежцы чакаюць перагляду зямельнага закону новым Ўрадам.

## Сход беларускіх арганізацый.

18—XII—26 г. **меўся адбыцца беларускі сход**, на якім дэлегацыя, быўшая на Акадэмічнай Беларускай Нарадзе ў Менску, жадала даць справаздачу і падзяліцца сваімі ўражаньнямі з мейсцовымі беларусамі. Ў зьвязку з тым, што 17—XII--26 г. быў абвешчан асадны стан у Коўне, сход ня мог адбыцца.

Гэты сход стаўся 24—I сёл. г. З прамовамі выступалі Рэктар Літоўскага Унівэрсытэту праф. М. Біржышка, В. Ластоўскі і А. Галавінскі, якія адзначылі, што цяперака беларуская справа стала відавочным фактам жыцьця, а не чымсьці „любіцельскім", як некаторым здавалася; што ў шэразе галін нацыянальна-культурнага жыцьця Менскія беларусы маюць даволі значныя дасягненьні; што Менск відавочна стаў беларускім нацыянальна-культурным цэнтрам, дзякуючы чаму ўсе замежныя беларусы зацікаўлены ў яго развіцьці.

Дакладчыкамі таксама было канстатавана прысутнасьць спайкі паміж Урадам і жыхарствам, што Ўрад Рад. Беларусі падтрымліваецца ўсімі беларускімі элементамі, пачынаючы ад сялян і рабочых і канчаючы інтэлігэнцыяй. *)

На сходзе таксама абговорваліся падзеі ў Зах. Беларусі. З прамовамі выступалі — А. Галавінскі, В. Ластоўскі, К. Душэўскі і Якавюк. Сход заслухаў мамэрандум і прыняў наступнае:

## РЭЗАЛЮЦЫЯ
## аб'еднанага сходу беларускіх грамадзкіх арганізацый у Літве.

На адбыўшымся 24—I г. г., па ініцыятыве Ковенскага Беларускага Нацыянальнага Гуртка, сходзе беларускіх грамадзкіх, палітычных і культурных арганізацый у Літве, прысьвечаны арыштам беларусоў у Зах. Беларусі, аднагалосна прынята пастуйная рэзалюцыя:

*) Падрабязная справаздача будзе дана ў чарговым № „Покліча".

Апошнія польскія надужыцьці над прэдстаўнікамі беларускага адраджэнчага руху зьяўляюцца завяршэньнем сыстэмы поўнай зьневагі правоў захопленага беларускага жыхарства і яго афіцыяльных прэдстаўнікоў.

Крэсавы абшарнік і польскі шавініст міністр Мэйштовіч, карыстаючыся дзяржаўным апаратам, праводзіць клясавую расправу і помсту над сваімі праціўнікамі—прэдстаўнікамі працоўнага беларускага жыхарства, аспарваючымі ў былых прыгоншчыкаў правы на прэдстаўніцтва краю.

Сход пратэстуе:

1. Супроць масавых вобыскаў і сыстэматычнага прасьледаваньня найбольш актыўнай, легальнай і лаяльнай, у стасунку да польскай канстытуцыі, беларускай нацыянальна-палітычнай аргінізацыі—Беларускай Селянска-Работніцкай Грамады (налічваючай звыш 700 адзелаў і 80.000 сяброў) і адміністрацыйных арыштаў найбольш выдатных яе сяброў, у тым ліку, ўсіх прэдстаўнікоў яе ў Польскім Сойме, якія арышты парушаюць канстытуцыйныя гарантыі беларусоў у Польшчы.

2. Супроць арыштаў прэдстаўнікоў і канфіскацыі справаў Таварыства Беларускай Школы і Беларускіх Каапэратыўных Банкаў, зусім апалітычных нацыянальных, культурна-гаспадарчых установаў у Зах. Беларусі.

3. Супроць сыстэматычнага распаўсюджваньня польскай і прыслужваючай ёй прэсай (у тым ліку рыжскім „Сегодня“) на працаўнікоў беларускага адраджэнчага руху, вымысьляемых польскай дэфензывай, інсінуацый, чым польскія шавіністы імкнуцца замаскаваць і апраўдаць узурпацыю правоў беларускага народу і свае бясчынствы над беларускім жыхарствам.

Сход засылае свае шчырае прывітаньне змаганнікам за за беларускую справу пад Польскай акупацыяй і пераконан, што іх праца і страданьні выкуюць вольнасьць і дасягнуць нармальных варункаў істнаваньня беларускаму жыхарству. Сход запрашае ўсіх, спачуваючых вызваленьню паняволеных народаў:

1. Вымагаць ад Польшчы бязадкладнага звальненьня з-пад арышту беларускіх паслоў і амністыі ўсім палітычным вязьням, якія знайходзяцца ў польскіх турмах.

2. Вымагаць ад Польшчы выкананьня, нададзеных сучаснай эпохай і міжнароднымі ўмовамі, абавязкаў па здавальненьню нацыянальна-культурных і сацыяльна-гаспадарчых патрэб, увайшоўшых ў яе склад меншасьцяў.

3. Дамагацца права на самаакрэсьляньне беларускага жыхарства ў тых акругох, гдзе яно складае пераважную большасьць.“

Упаўнаважаныя сходу:

*В. Ластоўскі*
*А. Галавінскі*
*К. Душэўскі*
*С. Якавюк*
*Н. Сафронаў.*

## Заходняя Беларусь.

**Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада** з кожным днём усё шырэй разгортвае сваю працу. Калі рэшта беларускіх арганізацый і партый у Польшчы спадзяецца лагадлівасьцю і падлізваньнем дастаць што-колечы ад „панскай ласкі“, то Грамада канчаткова страціла веру ў „панскую ласку“ і распачала арганізаванае змаганьне за правы беларускага, пагвалчанага Польшчай, жыхарства.

Грамада пачала з усебаковай арганізацыі беларускага жыхарства. Да сьнежня м-ца было закладзена звыш 700 гурткоў Белар. Сялянска-Работніцкай Грамады, налічваючых больш 80.000 сяброў. Потым зроблена моцнаа арганізацыя жыхарства Беларускай Школы; закладзен Беларускі Банк і некалькі яго аддзелаў у правінцыі.

Адчуваючы за сабою моц арганізаванага жыхарства, прэдстаўнікі Грамады ў Варшаўскім Сойме занялі нацыянальна-радыкальную пазіцыю, дамагаючыся права на самаакрэсьляньне жыхарства, акупаванага Польшчай, зямлі і амністыі заарыштаваных і засуджаных за нацыянальна-палітычную справу грамадзян. Грамада і яе мейсцовыя арганізацыі правялі шэраг мітынгаў, дамагаючыся звальненьня вязняў. Мітынг у Паставах

закончыўся тым, што каля 2000 грамадзян кінуліся да штурму і хацелі самі звольніць вязняў. Некалькі гадзін трывала бойка з турэмнай паліцыяй і толькі падыйшоўшае войска здолела разагнаць дэманстрантаў.

Чыннасьць Грамады, яе ўплывы на сялянства (ў некаторых паветах, як прыкладам Навагрудскім, Пінскім П.П.С. прымушана была зачыніць свае аддзелы за адсутнасьцю сяброў) і шпаркі рост перапалохалі польскую адміністрацыю і асабліва польскіх абшарнікаў. Іх орган віленск. „Słowo“ амаль у кожным нумары піша якую-колечы інсінуацыю супроць Грамады.

Каб паралізаваць чыннасьць Грамады, палякі карыстаюцца рознымі сродкамі. Супроць Грамады і яе арганізацый паведзян адміністрацыйны тэрор і, апрыч таго, польская адміністрацыя пачала заігрываць з іншымі беларускімі арганізацыямі, каб подкупам і ашуканствам паставіць іх супроць Грамады.

Прыкладам першай тактыкі акупантаў можа быць напад на сход гуртка Грамады ў Бельскім павеце.

На гэтым сходзе былі прысутнымі прэдстаўнікі Грамады Варшаўскага Сойму Мятла і Валошын. Банда агентаў польскай дэфензывы, злучыўшыся з „малайцамі“ вядомага Балаховіча, ўзброеная стрэльбамі і кулямётамі, акружыла сход і страшэнна зьбіла дэпутатаў Сойму. Іх акрываўленыя сарочкі (як павядамляе ангельская прэса ў час запросу аб гэтым бясчынстве) ў Сойме былі кінуты ў твар польскаму міністру Бартлю. Атрымаўся вялізарны скандал і прышлося зачыніць паседжаньне Сойму.

Прыкладам другой тактыкі могуць паслужыць апошнія захады Пілсудзкага ў Вільні. Да сваіх верных прыслухачоў „доктара“ Паўлюкевіча, Балаховіча і К-о Пілсудзкі імкнецца залучыць беларускіх Х. Д., Сялянскі Саюз і навет беларускіх С. Р. Гэта кампанія мае ўтварыць „Беларускае Нацыянальна-Дэмакратычнае аб'еднаньне. Ходзяць пагалоскі, што акупанты шукаюць новага „бацьку“, які стаў-бы на чале гэтай кампаніі. Так, праежджаўшыя праз Коўна пражскія студэнты, казалі, што ў Прагу наведываўся польскі прэдстаўнік і зьвяртаўся да Пётры Крэчэўскага, каб ён „благаславіў“ і стаў на чале арганізацыі. Ці даў на гэта згоду Пётра К.—невядома, але мы пераконаны ў тым, што з гэтае зацеі нічога ня выйдзе.

Нічога не станецца таму, што сучасная Польшча арганічна няздольна ўшанаваць правы і здаволіць патрэбы акупаванага беларускага жыхарства. Польшча здолее запрапанаваць беларусам любую авантуру, але ніколі ня зробіць чаго-колечы рэальнага для справы беларускага адраджэньня, для ўздыму дабрабыту беларускіх працоўных масаў.

Не, паночкі, авантуры няхай застаюцца вам, а нам падай істоту справы—зямельку і права на самаакрэсьляньне Польшча, добра заплаціўшы, можа пераманіць на свае паслугі некалькі беларусоў, але яна няздольна вырашыць, у памысным для беларускага сялянства кірунку, зямельнай справы. Польскі пан і беларускі сялянін разам ніколі ня ўжывуцца. Старыя часы, калі беларускае жыхарства прыраўнівалася да быдла, мінавалі. Беларускі сялянін ведае, што ён мае права быць гаспадаром на сваёй Бацькаўшчыне і за пекныя словы (ці-то вялікаможных польскіх паноў, ці то беларускіх здраднікаў) не прадасьць свайго права. Гэту сьвядомасьць і волю да змаганьня за свае правы ўзгадавала ў жыхарстве Зах. Беларусі Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. Гэта ёсьць запраўдны правадыр беларускага акупаванага працоўнага жыхарства, і разам з Грамадой па яешляху яно і пойдзе.

У сваіх часопісях Грамада ўскрывае запраўдныя мэты Пілсудзкага.

**Беларуская віленская часопісь „Народная Справа“ (цяпер зачыненая польскай уладай) вось што пісала аб тым, што было у Нясьвіжы:**

„У Нясьвіжы („Народная Справа“ № 13, 3—XI—26 г.) адбылася ўрачыстасьць узлажэньня—асабіста м. Пілсудзкім—ваеннага крыжа на магілу забітага ў вайне з бальшавікамі „князя“ Радзівілла, б. ад'ютанта Пілсудзкага. Але якраз на гэты самы час польскія абшарнікі манархісты, з Радзівілламі на чале, падрыхтавалі свой зьезд з усяе Польшчы. Гэткім чынам марш. Пілсудскі „апынуўся“ — быццам манарх, акружаны сваімі васаламі, — сярод прадстаўнікоў самай чорнай рэакцыі ў краі.

Варшаўскія газэты зусім ясна і выразна пішуць, што ўвесь сьпісак „князёў“, „графоў“ дый розных іншых нятытулаваных абшарнікаў-манархістаў, якія былі запрошаны ў Нясьвіж, улажаны ў паразуменьні з міністрамі-манархістамі

і—„асабіста зацьверджаны Бэльвэдэрам“ (Бэльвэдэр—сядзіба марш. Пілсудскага ў Варшаве). Ўсепольскі зьезд манархістаў-абшарнікаў, удзельнікаў якога, гэткім чынам, асабіста назначаў сам Пілсудзкі, зьяўляецца толькі далейшым пасьледавальным крокам усяе палітыкі пана маршалка, які ўжо зусім выразна паставіў стаўку — не на дэмакратыю, як абвяшчалася ў „мядовым месяцы“ траўні, не на мілага калсіці - у царскія часы, але цяпер стаўшага зусім нясмачным, работніка-сацыяліста, але — на абшарніка арыстакрата, на прадстаўніка самай чорнай рэакцыі ў Польшчы“.

„Słowo“ з захапленьнем („Нар. Справа“ № 30, 30–X—26) пераказвала словы вітаўшых маршалка Пілсудзкага магнатаў, якія называлі госьця „сваім“ па крыві і па духу, — і адзначала, што п. Пілсудзкі быў гэтым „вельмі ўзварушаны“. Мала таго: орган манархістау зьмясьціў партрэт п. Пілсудзкага—побч з партрэтам апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага—пад каралеўскай каронай, як быццам хочучы паказаць, што польскія манархісты гатовы ўзлажыць карону на галаву п. Пілсудскага—ў нагараду за захаваньне ім „сацыяльнай раўнавагі“ ў Польшчы... Апошняе якраз і ўзбурыла опозыцыйную прэсу—правую і левую, ды выклікала рад вострых выступленьняў проці „сноу аб кароне“, якія адкрыта прыпісваюцца п. Пілсудзкаму...

Мы — бязумоўныя праціўнікі каралеўскай ўлады, незалежна ад таго, хто і якім шляхам маніцца яе сабе здабыць. Але ў даным выпадку нас—паміма гэтага пытаньня—цікавіць нешта другое, чым тое, на што зьвярнула ўвагу ўся польская прэса. Нас цікавіць факт, што марш. Пілсудскі сваім прыездам у госьці да абшарніка, які на сваіх землях завёў запраўдны прыгон для беларускіх сялян, сказаў сваё апошняе слова аб тым, як трэба разумець ягоную заяву аб захаваньні ў Польшчы „сацыяльнае раўнавагі“.

Князь Сапега ў сваей прамове да марш. Пілсудзкага выразна сказаў, што абшарнікі з страхам узіраюцца на тое, як „новыя сацыяльныя слаі (сяляне і работнікі!) на руінах шляхоцкае Польшчы ўзялі ў свае рукі законадаўчую ўладу“. Ад гэтых новых народных сілаў — паводле думкі магнатаў—Польшча мусіць згінуць. І вось марш. Пілсудзкі зьяўляецца тым адзіным аўтарытэтам, які можа да гэтага не дапусьціць

і вярнуць польскім магнатам іх колішняе значэньне ў краі, павярнуць ход гісторыі Польшчы—назад, за сто пяцьдзесят гадоў...

І—ў адказ на ласьлівыя словы былых сваіх заклятых ворагаў—былы правадыр польскага сацыялізму падняў тост, закончыўшы яго славамі:

„Падыймаю гэты тост за род Радзівіллаў, які мяне сягоньня частуе, каб астаўся таксама вечным, як гэтыя старыя муры Нясьвіжа!“...

Апошняе слова марш Пілсудзкага — слова былага сацыяліста—сталася першым словам адрадзіўшагася клясова абшарніка, прыпомніўшага раптам аб тым, што ён перадусім — „патомак старога і заслужонага шляхоцкага роду“...

„Эндецкая прэса („Нар. Справа“ № 32, 6—XI—26 г.) дасьціпна расшыфоўвае мэты і пляны марш. Пілсудскага.

„Трэба думаць, што Пілсудзкі зрабіўся цяпер яўным прыхільнікам манархіі. Але манархія сама па себе ня можа быць яшче самамэтай: яна—срэдства для зьдзейсьненьня пэўныхъ мэтаў. Якая-ж гэта мэта? Можна думаць з раду тлумачэньняў бэльвэдэрскай прэсы, што гэта — ідэя фэдаралістычнай арганізацыі ўсходняй Эўропы... Упорна ходзіць чутка, быццамъ гэткія пляны падсоўвае ды вельмі падтрымлівае Англія... Пры гэтым трэба ведаць, што асабістыя адносіны марш. Пілсудзкага з англійскім паслом у Варшаве Максам Мюлерамъ—вельмі блізкія, дый—што ў інтарэсе Англіі—каб ня было між Польшчай і Ресеяй залішне добрых адносінаў... А калі дадаць яшче, што ўвесь Нясьвіжскі зьезд быў наладжаны манархістамі з-за ўсходняга кардону,—тымі абшарнікамі ды магнатамі, якія ніяк яшче ня могуць адхварэць таго, што частка іх вялізарных абшараў асталася на расейскім баку“.

## Масавыя арышты.

### Арышты беларускіх паслоў і культурных дзеячоў. Зламаньне канстытуцыі.

Польскія абшарнікі зразумелі, што беларусы раскусілі запраўдныя імкненьні польскіх палітыкаў і на якія-небудзь ашуканствы ня пойдуць, ня згодзяцца ліць воду на польскі млын, і таму польскія шавіністы і абшарнікі парашылі павясьці актыўную і рашучую барацьбу.

Як павядамляе „Наша Справа“ (№ 6, 19-I-27 г.), Мэйштовіч варункам свайго супрацоўніцтва з урадам Пілсудзкага паставіў „дамаганьне ў меры ўнутранай палітыкі“—разгрому Грамады.

Калі „сацыялісту“ Пілсудзкаму прышлося выбіраць паміж польскім абшарнікам Мэйштовічам і прэдстаўнікамі беларускага сялянства, ён выбраў... першага. Мэйштовіч пачаў даўно падрыхтоўваемую ім расправу... Арышты распачаліся ў $2^1/_2$ гадзіны ноччу з 14 на 15 студзеня сел. г. Тарашкевіча і Валошына заарыштавалі ў ложку, а Міхайлоўскага і (на другі дзень) Мятлу ў цягніку.

Апроч таго, заарыштавалі ўсё Праўленьне Беларускага Каапэратыўнага Банку і яго аддзелаў і прэдстаўнікоў Таварыства Беларускай Школы. Таксама масавыя вобыскі і арышты былі зроблены па ўсёй Зах. Беларусі сяброў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

## Рэзалюцыя Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.

Беларускі Нацыянальны Камітэт, як панадпартыйная арганізацыя беларускага грамадзянства, пазнаёміўшыся на паседжаньні сваім 16 студзеня 1927 году з ходам зробленыхъ на землях Заходняе Беларусі масавых вобыскаў і арыштаў сярод беларускіх культурна-асьветных і грамадзкіх дзеячоў, а таксама з асвятленьнсм гэтае акцыі Урадам і польскай прэсай,—з усей рашучасьцяй сцьвярджае:

1) што акцыя проці масавай арганізацыі беларускіх сялян і работнікаў пад назовамъ „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“ абаперта на зусім беспадстаўным зьвязаньні легальнае і ў рамках канстытуцыі Польскай Рэспублікі дапусьцімае дзеяльнасьці „Грамады“ з акцыяй Камуністычнай Партыі;

2) што таксама зусім беспадстаўна Урад сіліцца перакінуць адказнасьць за быццам-то зробленую камуністычную змову з афіцыяльнага кіраўніцтва польскіх камуністычных арганізацыяў на трох беларускіх паслоў: Тарашкнвіча, Рака-Міхайлоўскага і Валошына, заарыштаваных—без згоды Сойму—пры абставінах, не прадугледжаных арт. 21 Канстытуцыі,

які дапускае арышт паслоў толькі ў мамэнт выпаўненьня імі злачынства;

3) што беспадстаўныя арышты кіраўнікаў легальных беларускіх культурна-асьветных таварыстваў і фінансавых устаноў (Таварыства Беларускае Школы, Беларускае Гімназіі ў Вільні, Беларускага Каапэратыўнага Банку—Цэнтралі ў Вільні і аддзелаў у Глыбокім і Пінску), а таксама падаваньне нязгодных з праўдаю інфармацыяў аб нібы-то праступнай дзеяльнасьці гэтых установ — маюць зусім ясную мэту: разьбіцьцё вогнішчаў беларускай культурна—нацыянальнай і эканамічнай працы, над якімі польскія ўлады ўсьцяж чынілі зьдзекі.

4) што адначасна разьбіваньне масавай арганізацыі беларускіх сялян і работнікаў, творанай дзеля канстытуцыйнага змаганьня за зямлю і паўнату грамадзкіх правоў, зьяўляецца яркім выяўленьнем барацьбы ўпрывілеяваных клясаў з беларускім працоўным людам;

5) што крокі, учыненыя цяпер прадстаўнікам польскага абшарніцтва ў Урадзе міністрам справядлівасьці п. Мэйштовічам, зьяўляюцца паўтарэньнем ягоных загадаў, тасаваных ужо раз — дзеля здушэньня беларускага і літоўскага нацыянальнага руху ў часе істнаваньня „Сярэдняй Літвы“ — да 33 дзеячоў на культурна - асьветным і эканамічным груньце, якіх бяз сьледзтва і суда выкінулі за межды дзяржавы.

Рашуча пратэстуючы проці вышэйпададзенага, Беларускі Нацыянальны Камітэт адначасна заяўляе свой пратэст проці паступаньня, бадай, усяе польскае прэсы, якая з сьведамай зласьлівасьцяй падае ў алярмуюча - сэнсацыйнай форме ілжывыя ведамасьці аб няістнуючых доказах віны заарыштаваных паслоў і дзеячоў беларускіх—перад заканчэньнем судовага сьледзтва.

## Пратэст Нагляднае Рады Беларускага Каапэратыўнага Банку.

З прычыны шырэньня паасобнымі органамі польскае прэсы нязгодных з праўдай вестак аб быццам-то праступнай дзеяльнасьці Беларускага Каапаратыўнага Банку ў Вільні, Наглядная Рала Банку падае да агульнага ведама наступнае запярэчаньне:

1) Няпряўда, быццам Белар. Каапер. Банк быў закладзены „Бел. Сял.-Раб. Грамадой“, бо статут Банку зацьверджаны быў 1 лютым 1925 году, а „Грамада“ паўтала пасьля расколу ў Беларускім Соймавым Клюбе, які адбыўся ў канцы 1925 году.

2) Няпраўда, быццам Банк даваў пазыкі без аддачы.

3) Няпраўда, быццам Банк наагул даваў якія-колечы пазыкі бнз працэнтаў.

4) Няпраўда, быццам пры выдаваньні пазыкаў Банк кіраваўся якімі-колечы палітычнымі камбінацыямі.

5) Няпраўда, быццам Банк фінансаваў якую-колечы палітычную акцыю, або быццам выкрыта ягоная роля ў камуністычнай працы.

Нягляднaя Рада гэтым сцьвярджае, што капіталы Банку злажыліся выключна шляхам складак пайшчыкаў, лічба якіх перавышае 900, ды ўкладаў прыватных асоб і грамадзкіх установаў, абаротная-ж сума на бягучым раханку Беларуск. Сіл.-Раб. Грамады за ўвесь час істнаваньня апошняе роўна каля 9.000 злотых, а сальдо на сягоньняшні дзень—30 зл.

Дзеля таго, што падаваньне ў прэсе нязгодных з праўдай вестак аб дзеяльнасьці Белар. Каапар. Банку робіць паважную матар'яльную шкоду гэтай адзінай на ўсю Польшчу беларускай фінансавай установе,—Наглядная Рада будзе цягнуць да адказнасьці тыя газэты, якія не паправяць няслушна зробленай Банку шкоды.

Віцэ-Старшыня Нагляднае Рады:

**Ант. Трэпка.**

Сэкрэтар: **М. Марцінчык.**

Вільня, 17-га студзеня 1927 г.

# Рэзалюцыя Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы ў Вільні.

Ад самага пачатку шырэйшае працы Таварыства на правінцыі—пры арганізацыі мяйсцовых гурткоў, акруговых упраў, прыватных школ, народных дамоў і г. д.,—мяйсцовыя ўлады выявілі рэзка варожыя адносіны да ўсіх нашых культурных начынаньняў.

У сучасны мамэнт, калі пачаліся масавыя арышты сярод беларускіх палітычных дзеячоў і паслоў Сойму, тыя-ж улады

на мясцох распачалі адкрыты паход проці самае нашае арганізацыі, ня гледзячы на тое, што дзеяльнасьць яе абмяжоўвалася выключна працай над школьнай і пазашкольнай асьветай сярод беларускае люднасьці па вёсках і местах Заходняе Беларусі. Гэтак заарыштаваны старшыня і сэкрэтар Галоўнае Управы Т-ва, грамадзяне Астроўскі і Шнаркевіч, зроблены вобыскі ў памяшчэньні Галоўнае Управы і трох гурткоў Т-ва ў Вільні (Цэнтральнага, Новасьвецкага і Сьніпішскага), разгромлена Акруговая Управа Т-ва ў Навагрудку, пры чым пазбаўлены свабоды галоўныя працаўнікі яе, двойчыператрэсена Акруговая Управа ў Горадні, пры чым былі часова заарыштаваны старшыня і сэкрэтар Управы, арыштаваны паўнамоцнік Т-ва ў Косаве Ян Падражанец, зроблены вобыскі ў мясцовых гуртках Т-ва ў Казянах, Браслаўскага пав., і інш.—усе бяз ніякіх вынікаў. У-ва ўсіх гэтых праявах Галоўная Управа Т-ва бачыць выразнае імкненьне органаў улады спыніць культурна-асьветную працу Т-ва і разьбіць самую арганізацыю Т-ва.

Горача пратэстуючы проці ўсяго вышэйпаданага, Галоўная Управа адначасна пратэстуе проці недапусьцімага пастпаньня польскае прэсы, якая сваей бяспрыкладнай брахнёй аб дзеяльнасьці беларускіх грамадзянскіх устаноў і ўсімі паважаных дзеячоў будзіць агульнае абурэньне і робіць немагчымым мірнае сужыцьце беларускага грамадзянства з польскім.

Вільня, 19. I. 1927.

Віцэ-Старшыня: (—**А. Уласаў**, сэнатар.

За Сэкрэтара: **Г. Шырма.**

# Аналёгічныя пратэсты і рэзалюцыі,

ў сувязі з арыштамі паслоў і культурных дзеячоў, абвешчаны цэлым шэрагам беларускіх установаў-Беларускім Пасольскім Клюбам, Пэдагогічнаю Радаю Віленскай Беларускай Гімназіі і іншымі. Пратэст Беларускага Пасольскага Клюба польская ўлада не дазволіла агалошваць.

## Міжнародная салідарнасьць.

Як паведамляе „Rude Prawo“, у Празе—Чэскай адбыўся колькі -тысячны мітынг, на якім работнікі дамагаліся агульнай амністы ў Польшчы. Польскі ўрад павядомлены аб гэтым.

Францускай Сацялістычная Партыя паслала польскаму ўраду тэлеграму, падпісаную Форам. У гэтай тэлеграме зьмешчан пратэст супроць гвалтаў, тасаваных нядавна да N.S P.P., і дамаганьне звальненьня арыштаваных за палітычныя справы.

Дэлегацыя, зложная з прадстаўнікоў работніцкіх арганізацый і радыкальна мяшчанскіх ў Амэрыцы зьвярнулася да Польскага Консула ў Чыкаго і зажадала ад імя гэтых арганізацый амністыі для палітычных вязьняў у Польшчы.

Беларусы ўсяго сьвету, голасна пратэстуйце супроць гвалтоўных нападаў польскіх абшарнікаў на беларускіх сялян і рабочых Заходняй Беларусі!

Дазволена вайсковай цэнзурай.
Leista karo cenzūra.

Рэдактар-выдавец **Е. Гайдукевіч.**
Redaktorius-leidėjas **E. Gaidukevičius.**